© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (298) | ГОД VII | 28 КАСТРЫЧНІКА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

## НАРОДНЫ ПАЭТ



3 лістапада спаўняецца 80 год з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа (Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча), які разам з Янкам Купалам лічыцца заснавальнікам сучаснай беларускай літаратуры і мовы.

Сын панскага лесніка, Канстанцін Міцкевіч вельмі рана праявіў літаратурныя схільнасці і ўжо ў дванаццацігадовым узросце напісаў першыя вершы. Як потым успамінаў паэт, першым ацаніў яго вершы бацька. Праслухаўшы аднойчы верш аб вясне і даведаўшыся, што хлопчык з'яўляецца яго аўтарам, бацька даў яму рубель на цукеркі.

Сур'ёзнай літаратурнай працай Канстанцін Міцкевіч пачаў займацца пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі. Працуючы настаўнікам у глухой закінутай вёсцы, Міцкевіч вядзе сярод сялян рэвалюцыйную прапаганду. Першыя творы маладога аўтара з'явіліся ў друку ў верасні 1906 года. На старонках газеты «Наша доля», якая выходзіла ў Вільні, 1 верасня 1906 года быў надрукаваны верш «Наш родны край» пад псеўданімам Якуб Колас.

(Працяг на стар. 2)

В. БАРШЧЭЎСКІ

## ЗАКУТАК

— Калі хочаце пазнаёміцца з жыццём Сакольскага закутка, — сказалі мне ў Саколцы, — дык паязджайце ў Крыштафарова.

Я паглядзеў на карту Сакольскага павета. Мясцовасць сапраўды ляжыць, так сказаць, у тупіку, пры самай дзяржаўнай граніцы.

— Чым жа туды дабрацца? — спытаў я, адначасова адчуваючы, як зашчымелі мне косці ў нагах.

З клопату выбавіў сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. Дзянісюк.

— Выбіраюся ў Сідру, — сказаў ён. — Калі хочаце дык паедзем разам. Ад Сідры падкіне вас шафёр, хаця і дарога там не зусім важная.

Аб гэтым я пераканаўся едучы.

— Мо' я ўжо пехатой пайду? — пачаў я, каб спыніць здзекі над сваім целам.

— Нічога, пацярпіце трошкі, за ўзгоркам Крыштафарова. Адвязу вас на месца, як мае быць.

— Часта сюды ездзіце? — спытаў я шафёра.

— Калі ёсць патрэба.

За ўзгоркам паказаліся мураваныя будынкі. Мы праехалі вузкай грэбляй каля зарослага става і затрымаліся на шырокім, абсаджаным таполямі панадворку. Я падзякаваў шафёру і накіраваўся ў адзін з будынкаў.

*

У маленькім пакойчыку было тры асобы. Найстарэйшы, год за 60, з тварам, на якім зуб часу і перажыванняў пакінуў выразны след, гэта Аляксандр Пэрыч — кіраўнік ПГР. Маладая, высокая дзяўчына з прыгожай тоўстай касой, заплеценай у «кошычак» — Ірэна Касілка — галоўны рахункавод і зусім маладзенькая, рухавая, з чорнымі, як у цыганкі, вачыма, — Ял.іна Пілінда — намеснік рахункавода. Вось і ўся адміністрацыя Крыштафароўскага ПГР.

— Наўрад, ці знойдзеце вы ў нас нешта цікавае, — сказаў кіраўнік, калі мы пазнаёміліся. — ПГР наш невялікі. Агулам 230 гектараў зямлі...

Гісторыя гэтага ПГР, мабыць, мала розніцца ад другіх гаспадарстваў такога тыпу. Да 1946 года быў тут маёнтак паноў Суліка і Панкевіча. У час рэформы паноў прагналі, а маёнтак перайшоў пад дзяржаву. Людзі, якія працавалі на пана засталіся тут надалей. Да мінулага года ПГР «ехаў» на стратах.

Цяперашні кіраўнік прыехаў сюды тры гады таму назад У ПГР усё развальвалася. Ураджай з гектара збіралі не больш, як 7—8 цэнтнераў. А і з гэтых ураджаяў частку сяляне акалічных вёсак раскрадалі. Ніхто гэтым спецыяльна не пераймаўся. Шкадаваць дзяржаўнага? За літр самагонкі усё можна было ўладзіць. Нічога тады дзіўнага, што пры такіх умовах рабочыя ПГР зараблялі не больш 600—700 злотых у месяц.

Новы кіраўнік цвёрда ўзяўся за працу.

На вынікі доўга не трэба было чакаць. У мінулым годзе першы раз у гісторыі ПГР атрымана 100 тысяч даходу. Павялічыліся ўраджаі. Напрыклад, сёлета атрымана ў сярэднім 20 цэнтнераў жыта, 20 цэнтнераў аўса і 200 цэнтнераў бульбы. Такога ўраджаю тут не было ніколі.

Карэнным чынам узраслі і заробкі рабочых. Зараз яны ў сярэднім дасягаюць да 1500 злотых у месяц.

— Памятаю першы дзень свайго прыезду сюды, — расказвае кіраўнік. — Толькі мы з жонкай задрамалі, як узняўся за вокнамі крык, праклёны, ламатня. Жонка заламала рукі.

(Працяг на стар. 4)

СЛАЎНА МЫ... СУДЗІМСЯ

## ТЭМІДЗІН МЛЫН

Карна - адміністрацыйныя калегіі маюць поўныя рукі работы. Летам было крыху перадышкі, бо жніво ў полі і мала заставалася людзям часу на валакітню. Затое ўвосень зусім другія магчымасці...

— Халера цябе возьме з тваім сабакам! — бушавала суседка Вікця. — Жарты, паршуку хвост ад'еў!

Сцяпан бубніў:

— Ну, не леляшы так, не здохне.

Вікця ўпартая жанчына, свайго не папусціць. Падала справу да калегіі і выйграла. Сцяпана пакаралі на 400 зл. ды параілі ўвязаць Рэкса — бадзягу — на ланцуг.

Цяпер сусед, праходзячы каля хаты суседкі, убок галаву адварочвае... Ці пагодзяцца калі - небудзь?

За першае паўгоддзе ў Сакольскай калегіі зарэгістравана 298 новых спраў і 58 яшчэ не разгледжаных з канца мінулага года. Спакайней вядуць сябе Бельск і Гайнаўка, але ўсялякія рэкорды традыцыйна належаць Сямяціцкаму павету, які дасягнуў немалога ліку — 429-ці спраў. Моў, з дзеда-прадзеда ў нас так павялося...

Усё ж не ўсюды ўжо любуюцца ва ўзаемнай грызні. У параўнанні да мінулага года лік пакараных асоб паменшаў

(Працяг на стар. 5)



СВЕДКІ. Фота — Т. Чачкоўскі

НОВЫ КОНКУРС «НІВЫ»!

## ЯКУЮ ХОЧАЦЕ ЧЫТАЦЬ АПОВЕСЦЬ?

Гэтае пытанне адрасіцца да Вас, дарагія чытачы. Падкажыце нам, якога характару аповесць хацелі б Вы чытаць у «Ніве» у наступным годзе.

Лісты з сваімі прапановамі просім накіроўваць на адрас рэдакцыі «Niwa», Białystok ul. Wesołowskiego 1 (да 15 лістапада г.г.)

Сярод удзельнікаў конкурса будуць разлясаваны кніжныя ўзнагароды.

# БЕЗ СУСЕДАВАЙ ЛАСКІ

Няшчасце вандрує па свеце з завязанымі вачыма, нікога прозвішча ніколі не пытае. І тады... тады як жа добра знайсці спрыяльную руку, якая падтрымае ў бядзе!

Антону Свянткоўскаму з хутара Пілатоўшчына ў беластоцкім павеце летам гэтага года паў конь. Ішоў яшчэ сенакос і набліжалася ўжо жніво.

Даўней прышлося б Антону Свянткоўскаму ісці да суседа, да сваякоў ды кумаў і маліць, прасіць ласкі. Суседава ці сваяцкая ласка не заўсёды аднак напамінае салодкасць мёду; часцей, на жаль, пераўтвараецца ў смак палыну.

Антону Свянткоўскаму адкрыта была другая дарога. Ён звярнуўся за дапамогай да ашчадна - пазыкавай спулдзельні ў Гарадку. Не мусіў нізка гнуць калені, не патрабаваў нікому кланяцца ў пояс. Грунтоўна разгледзеўшы прычыны, праўленне касы прызнала яму чатыры тысячы злотых пазыкі. Свянткоўскі больш не прасіў. 19 ліпеня забраў грошы, купіў каня і мог ужо быць спакойны за сваю гаспадарку. Вось адна, але не адзіная, гісторыя чалавечага няшчасця, якую расказваў мне кіраўнік спулдзельчай касы ў Гарадку Уладзімір Храноўскі.

Неабходнасць такой ашчадна - пазыкавай касы падыктавала самое жыццё. Ваенныя нягоды і пасляваенныя разрухі зруйнавалі людзей перш за ўсё матэрыяльна. Каб стаць на ногі, каб распачаць новае жыццё, неабходна была нейкая дапамога. У той час не магла яна прысці недзе звонку. Добра разумелі гэта такога роду грамадскія дзеячы, як Уладзімір Храноўскі. Трэба было спалучыць свае магчымасці і супольна памагаць адзін другому ўзаемна. Пастаянны жывы кантакт з сялянамі, асабліва ў першых гадах дзейнасці касы, быў для яго вялікай школай.

— Цяпер, — сцвярджае кіраўнік, — знаю на столькі кожнага гаспадара ў нашым раёне дзейнасці, што без асаблівага доследу магу акрэсліць матэрыяльнае становішча тых, хто складае ў нас заяўку на пазыку. Трэба ж вам ведаць, што грошы прымаем ад кожнага, а як жа, каб толькі ў нас складалі, але пазыкі даем толькі найбольш патрабуючым.

Ашчадна - пазыкавая каса ў Гарадку абслугоўвае 2256 гаспадарак, якія распалажаны ў межах чатырох грамадскіх рад. Яе членамі з'яўляецца 1560 асоб.

Як кожная іншая, каса ў Гарадку настаўлена на аблягчэнне жыцця селяніну. Яна, напрыклад, вядзе выплаты за прададную жывёліну, за малако і другія прадукты сялянскага паходжання. Хлебароб не патрабуе траціць часу ў чэргах да гэзсаўскіх кас у дзень скупу, а можа, калі толькі захоча, калі спатрэбяцца яму грошы, звярнуцца да ашчадна - пазыкавай касы і тут яму заўсёды выплацяць яго належнасць.

Сума сялянскіх ашчаднасцей, зложаных на перахоўванне ў гарадоцкай касе, дасягае амаль паўтара мільёна злотых. (Для цікавых падам, што ў гарадоцкай касе найвышэйшая сума ашчаднасцей аднаго селяніна складае — 20 тыс. зл., а аднаго рамесніка — 75 тыс. зл.). Аднак ашчаджаюць далёка не ўсе сяляне, бо ў раёне дзейнасці гарадоцкай касы на 100 гаспадарак прыпадае толькі 47 ашчадных кніжак.

— Ці сяляне тэрмінова сплачваюць узятыя пазыкі?

— Наогул так, але не ўсе. Наша каса па тэрміновасці сплат знаходзіцца ў першым дзесятку ашчадна - пазыкавых кас Беластоцкага ваяводства. Задоўжанасці здараюцца у сялян найчасцей па зусім сур'ёзных прычынах. Рэдка толькі праяўляецца звычайнае нядбайства.

— Ці хто-небудзь прабаваў вас ашукаць?

— Здаралася. Напрыклад, у 1954 годзе адзін грамадзянін прышоў да мяне з гэзсаўскім квітом, які сцвярджаў продаж быка на суму 3164 зл. Квіт быў цалкам у парадку. Я падпісаў яго да выплаты, а праз пару дзён выявілася, што гэты грамадзянін не ГС-у, а толькі мне на... квіце прадаў гэтага быка. Прышлося справу аддаць у рукі пракурора.

Я быў ужо развітаўся з кіраўніком і з маладзенькай бухгалтаршай Нінай Парэмбскай ды накіраваўся да дзвярэй.

— Таварыш кіраўнік, — заўважыла бухгалтарша, — вы не сказалі рэдактару бадай што найважнейшага — аб сваім адзначэнні. Наш кіраўнік, — звяртаючыся да мяне, паясняе яна, — пад Міжнародны дзень спулдзельчасці атрымаў у гэтым годзе сярэбраны Крыж Заслугі.

Кіраўнік з натуральнай скромнасцю пацвярджае гэтую вядомасць.

У той жа момант у маленькім пакойчыку — сядзібе гарадоцкай касы паяўляецца старэйшы грамадзянін. Аказваецца, што сын яго даўжэйшы час цяжка хварэе, а лячэнне, вядома, рэч каштоўная, асабліва для сялян, якія не маюць убеспячальні. Цяжкое няшчасце цісне ў губы горкія словы.

Для такіх у касе ашчадна - пазыкавай спулдзельні заўсёды знойдзецца грашовая падтрымка. Суседу кланяцца не трэба.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

## Нашы перспектывы

# Каб конь гаспадаркі не з'еў

У 1963 г. у Беластоцкім ваяводстве на адну асобу ў сельскай гаспадарцы павінна выходзіць па пяць з палавінай тысяч злотых гадавога даходу. Вёска атрымае 3.600 мільёнаў зл. даходу з продажу сельскагаспадарчых прадуктаў і дадатковых 300 мільёнаў з пабочных работ. І так, сярэдні агульнадзяржаўны ўзровень даходнасці перавысіць усяго на 10 працэнтаў нашы заробкі — на адну дзесятую. Хутка раўняемся да найзаможнейшых раёнаў Польшчы — вельмі хутка.

Але, як вядома, даходы залежаць ад ураджаяў і гадоўлі жывёлы. А са штучнымі ўгнаеннямі хоць ты плач. Беласточчына моліць - просіць: дайце іх нам яшчэ з палавінку! Толькі ў гэтым годзе як бы зліталіся ды на 12% падбавілі прыдзелы. На наступны год дамагаемся падвойнай колькасці — як заўсёды. Пацяшаемся аднак, што ў сувязі з ростам пагалоўя жывёлы будзе больш гною. Тут ніхто ўжо не «абрэжа» прыдзелаў...

Хочам таксама ўдвая павялічыць колькасць кваліфікаванага зерня і на гэтай падставе поўнасцю перайсці на, так званы, суседскі абмен рэпрадукаваным збожжам. Гайнаўшчына, пэўна, утрая скруціцца са спеху, бо ў бягучым годзе з абменам было ў яе не найлепш.

Што ж, засталося толькі спадзявацца на ўраджаі другім летам. Жыта, аўса, пшаніцы, ячменю думаем атрымаць не менш 15-ці, а бульбы 150 цэнтнераў з аднаго гектара. Асабліва мяркуем пашырыць пасевы пшаніцы за кошт жыта і аўса (коні). Дзікія аблогі загаспадарым на плошчы каля дзесяці тысяч гектараў, кукурузы на сіласы шмат вырасцім (любяць жа яе каровы).

Прыросту пагалоўя кароў намераны дабіцца па 17 штук на 100 га, а прытым, каб надоі павялічыліся да 1.815 літраў ад кожнай рагулі. Масла, сыру нарабіць ды мясам загандляваць. Цяжка сказаць, каб людзі раптам мяса не злюбілі, але свіней у тры разы менш трымаюць, замест старацца пабольшыць гэты апетытны прыбытак. Кажуць гаспадары, што сакавітых кармоў не хапае, дажджы вымачылі палеткі... Таму, мабыць, і авец многа выразалі, ды затое коней адбаўляй не адбавіш. Даўно пісалі, што Беласточчына мае іх не менш, чым уся Англія. Па ўсяму відаць, дабра яны нам не прынясуць. У 1963 г. на плошчы 100 гектараў будзем мець па 14 коней (быццам кароў!). Прывыклі ж сяляне да дэрашоў — ой, прывыклі.

Меліярацыю праводзім, кармы паляпшаем. Хіба не для коней?! Звыш 20 тыс. гектараў новых пасбішч асвоім і другіх амаль дваццаць тыс. га загаспадаруем, да парадку давядзем. Расавая жывёла патрэбна — патрэбна і трава буйная, густая, карысная.

Равы машынамі капаем, гарады будуем — хутка, танна, трывала. Дык у чым жа палі раздольныя горшыя? Ці адвеку конь па іх таптацца павінен? Дармаед, абжора. Машына, брат, больш ад яго зробіць, — нядорага, лёгка. Трактароў шмат накупілі сельскагаспадарчыя гурткі — накупяць яшчэ. Нават запланавана ўжо для ваяводства 1.137 трактароў усякіх тыпаў. Зразумела, у першую чаргу «Урсусаў». Няспынна ідуць транспарты малатарняў, сеялак, капалак, жняярак, самавязак.

Баіцца дэраш машыны. Іржыць, дыба становіцца, ды селянін наш трымае яго за павады. Іначай, след па ім прастыў бы.

**Аляксандр АНТАШЭВІЧ**

Працяг са стар. 1

— Куды ж ты мяне прывёз? — загаласіла. — Заб'юць, зарэжуць.

Да самай раніцы мы не маглі заснуць.

— Што гэта было ноччу? — пытаю раніцай аднаго са старэйшых рабочых.

— Гэта моладзь музыкі спраўляла, — кажа.

— Якія ж гэта музыкі, калі ўсю ноч бойка была.

— Эт, што гэта за бойка, калі толькі аднаго адвезлі да лекара.

Пасля я даведаўся, што камандзірам усёй хеўры з'яўляецца Чэслаў Крупенік, працаўнік нашага ПГР. Паклікаў яго да сябе, пачаў дакараць, папярэджваць. Нават і слухаць не хацеў.

— Вы, — кажа, — да талавы гэтага не бярыце, бо яшчэ больш пастарэеце. Сядзіце сабе спакойна, пакуль вас ніхто не чапае, бо калі не, дык... мы ўжо тут не аднаго кіраўніка перажылі.

Я ўжо не мог сцярпець такога.

— Вон! — кажу, — каб за 2 гадзіны нават духу твайго тут не было!

### «КОСМАС» У КРЫШТАФАРОВЕ

Культурнае жыццё ў Крыштафарове вельмі маладое. Запачаткаваў яго тут кіраўнік ПГР ад... забароны арганізавання музык.

— Забараніць арганізаванне музыкаў, на якіх п'юць і б'юцца, гэта справа не складаная, — кажа кіраўнік. — Але чым жа іх змяніць?

І вось па ініцыятыве кіраўніка рабочыя ПГР прыступілі да пабудовы святліцы. Пабудавалі яе грамадскім чынам. Святліца прасторная, чыстая. На сценах актуальныя лозунгі. У калідорчыку таблічкі з напісамі: «Культурны чалавек на падлогу не плюне» і т.п.

У святліцы часта наладжваюцца літаратурныя вечары. Чытаюць кнігі, часопісы. Слухаюць радыё.

— Асеннія ці зімовыя вечары доўгія, — кажа пажылы рабочы Аркадзь Кулак. — Вось тады і ў святліцы прыемна пасядзець. Кіраўнік наш і рахункавод вельмі прыгожа чытаюць. Слухаеш не наслухаешся.

І так, святліца ПГР сталася патрэбнай у штодзённым жыцці насельніцтва.

Прафсаюзная арганізацыя, высока ацэньваючы святліцовую працу ў Крыштафарове, узнагародзіла ПГР кіноапаратурай і нядаўна ў святліцы арганізавана пастаяннае кіно.

У сувязі з адкрыццём кіна «Космас» я пачуў у Крыштафораве вельмі забаўную і як жа вымоўную гісторыю.

На палях ПГР працавалі жанчыны з суседніх вёсак. У час абедняга перапынку, кіраўнік паабяцаў ім высветліць фільм. Так здарылася, што прысутныя жанчыны яшчэ дагэтуль не бачылі кінафільма. І вось яны ў святліцы. Дэманстраваўся кінафільм з часоў рэвалюцыі. Калі герой кінафільма загінуў ад куль белагвардзейцаў, жанчыны не вытрымалі і заплакалі ўголас. А калі вышлі са святліцы, дык зусім усур'ёз пачалі спяваць: «За упакой душы салдаціка». Зараз у Крыштафарове кінафільмы дэманструюцца кожную суботу і нядзелю. Пастаянныя гледачы — гэта жыхары ўсіх навакольных вёсак. У кіно прыязджаюць нават за 7—8 кіламетраў.

— У бліжэйшай будучыні, — кажа кіраўнік, — плануем купіць тэлевізар. Тэлевізійная станцыя ў нас блізка — рукой падаць. Да Гродна ўсяго толькі 16 кіламетраў.

### КЛОПАТЫ АД САЛІДАРНАСЦІ

Начаваў я ў кіраўніка. Кватэра яго абсталявана па-старасвецку. Пакой застаўлены мноствам шафак, тумбачак, шкатулак. На сценах побач распяццяў фамілійныя здымкі.

— Вось гэта, — паказвае кіраўнік, — мой сын з нявесткай. У Лондане яны. Ад вайны там застаўся і ажаніўся з англічанкай. Быў лётчыкам. «Дывізіён 303» чыталі? Адзін з іх гэта мой сын.

Некалькі месяцаў таму наведаў іх. Жывуць нядрэнна. Прасілі, каб застаўся ў іх назаўсёды. Пакрыўдзіўся за такую прапанову.

— Я, — кажу, — прайшоў тут усё пекла гітлераўскай акупацыі. Дык цяпер буду ўцякаць з краіны, калі ў ёй жыццё пачало кіпець? Каб мае старыя косці на чужыне валяліся? Не, сынок, гэтага не будзе. Так і вярнуўся дамоў.

На стале недапітыя шклянкі чаю. Перад Аляксандрам Пэрычам раскрыты тоўсты сшытак. Гэта яго творчасць. Я ў ролі слухача і рэцэнзента. Прызнаюся, што гэтая апошняя роля для мяне вельмі нязручная. Паэзія мяне не палоніла ніколі. Але ветлівасць забавязвае. Аляксандр Пэрыч пісаць пачаў некалькі год таму назад.

— Што было прычынай маіх пачынанняў? — застанаўляецца ён, — сам не ведаю. — Неаднойчы назбіраецца ў чалавека на душы ўсякага і хочацца яго выліць некуды. Вось тады я і бяруся за пяро.

Творчасць Пэрыча — гэта яго біяграфія. Яна наскрозь рэалістычная. Тут адлюстраваны шэрыя гады акупацыі, няшчасці, якія прыносіць людзям вайна, і заклік да змагання супроць яе.

У сшытку А. Пэрыча багата вершаў з розных нагод. Калі ён, напрыклад, выступае на мітынгу з нагоды 1 Мая, 22 ліпеня ці гадавіны Кастрычніка, дык абавязкова гаворыць вершам. Людзям гэта падабаецца.

Па ініцыятыве кіраўніка ў ПГР арганізаваны гурток мастацкай самадзейнасці. Але з рэпертуарам было дрэнна. Нельга было знайсці п'есы,

# ЗАКУ

 

**З КАНФЕРЭНЦЫІ НАСТАЎНІКАЎ БЕЛ. МОВЫ НА САКОЛЬШЧЫНЕ**

# Родная мова - важны элемент выхаваўчага працэсу

11.X.г.г. у будынку пачатковай школы ў Крынках адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы і загадчыкаў школ з Сакольскага павета, дзе навучаецца беларуская мова. Несумненна, што канферэнцыя будзе мець вялікі ўплыў на далейшы лёс беларускай асветы ў гэтым павеце. Трэба адзначыць, што становішча школ з беларускай мовай на Сакольшчыне асабліва цяжкое. Склалася на гэта шмат розных прычын. Хопіць напомніць, што лік школ з беларускай мовай у гэтым павеце з года ў год змяншаецца, у той час, калі ва ўсіх іншых паветах колькасць гэтых школ павялічваецца або застаецца без змен. І таму скліканне канферэнцыі, якая разважыць асаблівыя праблемы навучання беларускай мовы, трэба лічыць вельмі карыснай ініцыятывай Куратарыума Беластоцкай Школьнай Акругі.

Удзельнікі канферэнцыі заслухалі два даклады. Візітатар куратарыума Беластоцкай школьнай Акругі Ян Канапелька ў сваім дакладзе падрабязна азнаёміў прысутных з праўна-адміністрацыйнымі праблемамі навучання беларускай мовы, а таксама запазнаў са станам беларускай асветы ў Польшчы. Даклад на тэму «Педагагічныя аспекты навучання беларускай мовы» прачытаў прадстаўнік ГП БГКТ Уладзімір Паўлючук. Галоўным тэзісам даклада было сцвярджэнне, што беларуская мова ў школе з'яўляецца адным з элементаў спецыфічнага выхаваўчага працэсу ў асяроддзі беларускай меншасці. Пасля дакладаў завязалася доўгая надта цікавая дыскусія.

(Працяг на стар. 7)



У зваршчыка Станіслава Маліноўскага работа проста гарыць у руках.

Гісторыя гэтага прадпрыемства даволі цікавая. Некалі была тут слясарская майстэрня, уласнасць Серафіма Такажэвіча. Слабенькая гэта была майстэрня. От, калупаўся сабе Такажэвіч пры замках, клямках ды веласіпедах. Больш складаных рамонтаў ён не меў магчымасці выканаць. І таму ў 1950 годзе перадаў сваю майстэрню пад праўленне ГС.

З таго часу і пачала яна разрастацца. А калі ад ГС майстэрню пад сваё праўленне пераняло Беластоцкае прадпрыемства прамысловасці, у ёй паявіліся новыя машыны: такаркі, вяртаркі, механічныя пілы, зварачныя апараты і вулканізацыйная печ. Большасць гэтых машын навейшага тыпу. Зараз у прадпрыемстве працуе 13 спецыялістаў — токараў, слесараў, зваршчыкаў, кавалёў і вулканізатараў.

— Працы ў нас, — кажа майстар Станіслаў Ярэмка, — хоць адбаўляй. Сёлета, напрыклад, да верасня мы мелі каля 1000 заявак на ўсялякія рамонты. Каля 900 ўжо выканалі. Рамантуем машыны да мясных, малочных вырабаў, матацыклы, а нават складаныя рамонты аўтамашын. Па гэтай галіне маем добрага спецыяліста — механіка Сяргея Бадзэвіча.

Бельскі «М-5» славіцца салідным выконваннем працы. Пасля рамонту ў «М—5» машына будзе хадзіць, як новая. Таму і кліентаў тут ніколі не бракуе. Прыязджаюць сяляне нават з другіх паветаў — Гайнаўскага, Сямяціцкага.

# Бельскі „М-5"



Серафім Такажэвіч ужо 13 год працуе токарам у Бельскім «М—5». Ён ганарыцца тым, што з яго слесарскай майстэрні вырасла такое карыснае прадпрыемства.

Станецца нешта з сельгасмашынай ці матацыклам, дык куды? Да Міхайлава (так папулярна называюць прадпрыемства ад прозвішча яго кіраўніка — тэхніка Андрэя Міхайлава). Міхайлаў вылячыць кожную хваробу машыны.

Тэкст **В. Баршчэўскі**
Фота: **Т. Чачкоўскі**



У Мікалая Сабешука занямог матацыкл. І вось ён на панадворку Міхайлава. Паглядзім, — кажа Сяргей Бадзэвіч, — на што ён «скардзіцца.»

# ТЭМІДЗІН МЛЫН

працяг са стар. 1

амаль на трэцюю частку. Прытым ёсць чым пацешыць жонак, матак. На лоб, на шыю падаюць лічбы пакаранняў за алкагалізм! Калісьці бывала, міліцыя за адзін дзень лавіла каля Кузніцы па дзесяць самагоншчыкаў... Мінавалі добрыя часы патаемніцам; хочуць не хочуць, а пераходзяць на гандаль манапалькаю. Даход з яе мізэрны. Ратуе аднак тое, што манапольку прадаюць толькі ў тых вёсках, дзе знаходзяцца грамадскія рады.

Трыццацігадоваму Рыгору прысудзілі дзве тысячы злотых кары за кражу сасны з Перацёсаў. Перад беластоцкай калегіяй апраўдваўся: — Ніколі больш не зраблю гэтага!

Жаль, што лес чуць — гаварыць не можа. То ж уцешыўся б! Далёкі той час, калі драўніну фурамі валачылі. Цяпер часамі хто — небудзь кругляка якога ў галлё прыхавае. Таму калегіі не маюць ужо каго «абдзяляць» арыштамі. Застаюцца грашовыя кары. Дык і тых напалавіну паменшала. За мінулую зіму і весну кары па звыш 1.000 зл. атрымала ўсяго 25 гаспадароў, калі год таму назад было налічана 39 выпадкаў. Мала крадзем лесу — штораз менш... Малайцы!

Непакоіць аднак факт павелічэння абвінавачванняў за парушэнне правіл дарожнага руху, што тлумачыцца хуткім развіццём матарызацыі ў нашым ваяводстве, а дакладней кажучы, непераадольнай цягаю моладзі да матацыклаў. Вось хаця б гісторыя з Генікам. Жаніцца хлопец збіраўся, увесну «Панонію» купіў. Аднойчы выбраніцу сваю з забавы падвозіў. За паваротам на гумавіка напароліся. Ёй, шчасліва, нічога не сталася, не лічачы падранай сукні, панчох, а ён непрытомна гракнуўся аб брук. Гаспадар узваліў няўдачніка на фуру, у сямяціцкі шпіталь папёр. Так і застаўся Генік без права язды, бо моцна п'яным быў, а вазака пеканулі «гуралем», бо левай стараною ехаў — замест правай — і без фанара.

Колькі ж мы наслухаліся, начыталіся аб пажарах, фатаграфій заплаканых пагарэльцаў наглядзеліся. Там дзеці падпалілі; у другім зноў месцы хтосьці з папяросаю ў зубах заснуў на саломе ў гумне, з хрэсьбін вяртаючыся. Відаць, слаба пераймаемся ўсім гэтым. Штораз больш выбухае пажараў па прычыне недагляду, нядбайнасці, лёгкадумнасці. Пажарнікі і міліцыя ўзяліся за востры кантроль.

Кантроль кантролем, але перш за ўсё патрэбна пашырыць выясняючую дзейнасць праз арганізацыю сустрэч членаў калегій з мясцовым насельніцтвам. Няхай людзі пытаюць - распытваюць: за што і як сурова судзяць? Што дазволена або недазволена? Затым, немалаважную ролю адыгрываюць выязныя (паказовыя) разборы тыповых спраў, якіх наладжана надта мала (пакражы, пажары, хуліганства). Такім чынам можна праводзіць як жа карысную папулярызацыю палажэнняў заканадаўства, прадухіляючы, мабыць, не адзін - два няшчасных выпадкаў ці з'яў, шкодных людской, грамадскай маралі. Такая праца тым больш неабходная ў значна шырэйшых чым дагэтуль размерах з увагі на перадачу ў веданне карна - адміністрацыйных калегій права вядзення следства па дробных пакражах вартасцю да 300 злотых.

Шматабяцаючай з'яўляецца ініцыяваная ад некаторага часу практыка падавання да публічнага ведама важнейшых спраў. Адпаведныя вывескі на дошках аб'яў, крытычная інфармацыя ў мясцовым радыёвузле ці газетная заметка зробяць свой уплыў у даным асяроддзі, не гаворачы ўжо аб самаадчуванні засуджанага.

У заканчэнні вышэй складзеных разважанняў нельга не ўспамянуць аб тым, што ў змяншэнні судовай шуміхі бяспрэчнае значэнне мае павышэнне юрыдычных кваліфікацый дзяржаўных працаўнікоў, якія нясуць адказнасць за правільную працу калегій. Да 30 чэрвеня адбылося на Беласточчыне 1.342 разборы, у выніку якіх абвергнуты прадстаўленыя довады віны, прызнаны недастатковымі. Тым часам год таму назад запісана аж 2.301 такі выпадак. Штораз цяжэйшым становіцца жыццё розным круцялям, ілгунам ды ашуканцам, якія нярэдка цэлымі гадамі абіваюць парогі «ў пошуках праўды».

З'яўляемся недысцыплінаванымі. Сорамна! У плацяжы мандатаў, пэўна, незадоўга здабудзем асаблівае першынство ў краіне. Толькі за першыя шэсць месяцаў б.г. заплацілі мандатных кар на суму 1.019.245 зл! Цікава, якая атрымаецца лічба ў канцы года? Не меншая, як два мільёны, гэта напэўна... Бо трэба ведаць, што агульны лік пакараных перавышае мінулагодні́я даныя на 13.924 асобы! (за першае паўгоддзе).

Лёгкай рукой выкідваем грошы — будзем шчырымі — з-за звычайнай ганарлівасці або проста дурноты. Маўляў, не паддамся, і кропка!

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**

адпаведнай да іх умоў. І вось кіраўнік сам напісаў п'есу пад загалоўкам «П'янства і скупасць», у якой бічуе адмоўныя рысы асяроддзя.

У п'есе і вострая сатыра і гумар, хоць за бакі бярыся. Паасобныя ролі ўжо вывучаюць і незадоўга ў святліцы адбудзецца пастаноўка п'есы.

— Так, можна ў нас шмат добрага зрабіць уласнымі сродкамі, — сказаў кіраўнік, закурваючы чарговую папяросу. — Сёлета, напрыклад, на

# ТАК

22 ліпеня арганізавалі мы «вясёлае мястэчка». Тут карусель, гойданкі, фізкультурныя прылады і іншыя.

Колькі ж гэта радасці для малышоў. І бацькам лепш, калі дзеці заняты культурнымі гульнямі. Усё гэта зрабілі самі.

— Паколькі мне вядома, насельніцтва ў вас мешанае. Ёсць каталікі і праваслаўныя. Як жа ўкладаецца жыццё паміж імі?

— Няма ніякай розніцы. Хіба толькі такая, што адны хрысцяць дзяцей у касцёле, а другія ў царкве. У штодзённым жыцці адны з другімі жэняцца, запрашаюць у госці і жывуць салідарна. А мне ад гэтай салідарнасці толькі клопаты.

— Чаму? — пытаю са здзіўленнем.

— Бачыце, калі ў католікаў свята, дык праваслаўныя не выходзяць да працы. Калі ў праваслаўных свята, дык і католікі святкуюць салідарна. Праз увесь год назбіраецца горба гэтых святаў. А ў полі рабіць жа трэба.

### ПАНА ДРУГІ РАЗ ПРАГНАЛІ

Язэп Стаяк чалавек пажылы. Ён з батракоў. Батраком быў у паноў яго дзед, бацька. Батраком быў і ён — Язэп Стаяк. Ад самага маленства.

Язэп Стаяк — скупы на словы. Пакуль нешта скажа, абдумае, памяркуе.

Зараз ён брыгадзір і сакратар партыйнай арганізацыі

— Кіраўнік наш гаспадарку ўмее весці. Але і ад людзей вымагае. Калі што не так, дык ён не папусціць. Строгі. Але ў нас інакш нельга, — працягвае падумаўшы. — Папусці толькі, дык усё развалакуць. З партыйнай арганізацыяй лічыцца. Сам член ЗСЛ. Сходы робім супольныя. У нас жа адна справа.

— Ну, а калі б параўнаць калішняе, батрацкае жыццё з сучасным? — пытаю.

— Ды што там раўнаць, — з нейкай крыўдай у голасе адказаў Стаяк. — Людзі цяпер сталі сапраўды жыць. Добра зарабляюць, маюць належную апеку. Пан для батракоў кіно ў маёнтку не закладаў бы. І батрацкіх дзяцей у школу не пасылаў бы.

— А дзе ж вашы былыя паны? Ведаеце пра іх нешта?

— Прыязджаў тут адзін. Па хатах хадзіў. Просты такі, ветлівы, быццам ён і не быў панам.

— Па батраках засумаваў?

— Канстытуцыю соваў пад нос некаторым. Кажа, што паводле канстытуцыі яму належыць з ПГР-аўскай зямлі 50 гектараў. Хацеў, каб дапамаглі яму атрымаць гэтую зямлю.

— А што на гэта рабочыя?

— Ды нічога. Паціскалі плячыма і маўчалі. Нязручна гаварыць з былым панам. Дык ён некаторых у мясцовую краму запрасіў. Віно ставіў. Дабрак такі, што хоць ты яго да балючага месца прыкладай.

— І памагло віно?

— Памагло. Людзі смялейшыя зрабіліся. Языкі развязаліся. Кажуць, пакуль паночку маеш цэлыя косці, дык уцякай куды вецер дзьме. Бо калі не, дык паўзком палезеш. Ад таго часу не паказваецца. Бачыце, жыццё перамянілася. ПГР наш стаецца сапраўдным сацыялістычным гаспадарствам. Нават вясковыя людзі інакш цяпер на нас глядзяць. Няхай паспрабуе каторы з іх атрымаць 20 цэнтнераў жыта.

Да станцыі падвезлі мяне брычкай. Прызнаюся, што не хацелася ад'язджаць з гэтага закутка.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**



 







### НА КАЛЕНЯХ

— Як скончылася ў цябе ўчарашняя сварка з жонкай?

— Прыйшла да мяне на каленях.

— І што?

— Вылазь, — сказала, — з-пад ложка, не буду больш чапаць.

Прыслаў **А. К.**

### БУДУЧЫНЯ

Яна: — Як ажэнімся, будзем разам дзяліць усе хвіліны жыцця: радасць, нягоды, смутак і турботы.

Ён: — Але ж я не маю ніякіх турбот.

Яна: — Я ж кажу табе, як пажэнімся.

Прыслаў **Я. Цялушэцкі**

### НА ЎРОКУ

На ўроку заалогіі настаўнік пытае вучня:

— Скажы, Янка, доўга жывуць мышы?

Вучань:

— А гэта залежыць ад кошкі.

Прыслаў **Мікалай Янюк**

### ВЕТЛІВАСЦЬ

— Ты заўважыў, які Іван стаў ветлівы? У тралейбусе месца жанчыне ўступіў.

— Ты перш спытай, хто гэта жанчына!

— Можа жонка яго?

— Жонка, ды не яго. Жонка яго начальніка.

**СКАРБОНКІ**

### У РЭСТАРАНЕ

— Гэтае кураня — адна скура і косці!

Афіцыянт: — А вы хацелі б яшчэ пер'я?

Прыслаў **Янка Данільчук**



**Знайшоў я ўжо ўсе інструменты, нехапае толькі асістэнта.**

## КУР'ЁЗЫ

### Як Чэхаў стаў камуністам

«З абурэннем я даведаўся, што тэатр універсітэта Міамі рыхтуе да пастаноўкі «Вішнёвы сад», гэтую рускую прапагандысцкую п'есу. Адразу відаць, якая абстаноўка пануе ў гэтым універсітэце нашага штата. Усім вядома, што Антон Чэхаў — гэта адзін з тых людзей, чые тэорыі прывялі да стварэння камунізма, які цяпер пануе ў Расіі. Дастаткова прачытаць яго п'есу, каб убачыць, што яна прасякнута рэвалюцыйнымі і сацыялістычнымі ідэямі, накіраванымі супраць Амерыкі».

З пісьма чытача, апублікаванага ў газеце «Міамінь юс».



**— Скажыце, калі ласка, канкрэтна, якім спосабам мы абмяжоўваем вашу ініцыятыву?**

## ГУЛЬНЯТЭКА

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 30 | 4 | 44 | 13 34 / 25 | 11 / 36 | 24 | 8 | 29 |
| 41 / 6 28 | 12 / 32 | 47 | 38 | 5 | 2 | 15 | 49 |
| 21 | 39 | 27 | 18 | 50 | 45 | 23 / 7 | |
| 33 | 10 / 19 | 46 | 16 | 37 20 / 3 43 | 48 | 31 | 42 |
| 51 / 22 | 1 | 14 | 40 | 26 / 17 | 35 | 9 | |

**На гэтай табліцы прыведзены лікі натуральнага рада ад 1 да 51. Паспрабуйце адшукаць і пералічыць іх ва ўзрастаючым парадку: 1, 2, 3 і г.д. Патрапіце гэта зрабіць хутчэй чым за паўтары мінуты?**

**Васіль МАЕЎСКІ**

### ВЯРГІНЯ І ЯЗМІН

**Байка**

Было, заўважце, усё гэта
Якраз на самым сконе лета...
Стары, адцвіўшы ўжо Язмін —
Пажоўклы і злыселы небарака,
Сустрэўшы прыгажэйшую з Вяргінь,
Рассыпаўся прад ёю драбней маку.
«О, любая! О, дарагая кветка! —
На вуха ёй лагодна ён шаптаў. —
Такія на зямлі бываюць рэдка!
Як рад я, што цябе тут напаткаў:
Відаць, нам суджана на свеце
Заўжды ў адзіным быць букеце!
Табе адной гатоў аддаць я сэрца!»
Вяргіня слухае і з'едліва смяецца:
«Далёка ж ты, «любімы» мой, хапіў!
Ну што, скажы, агульнае мы маем:
Ты ўжо даўным - даўно адцвіў —
Я ж толькі-толькі расцвітаю».

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Надзі Андрэюк** з Плёскаў, Бельскага павета, **Ані Врублеўскай** з Баброўнікаў, Беластоцкага павета, **Анатоля Андрасюка** з Апакі Дужай, Гайнаўскага павета, змяшчаем сучасную папулярную савецкую песню.

## ВОСЕМНАДЦАТЬ ЛЕТ



За рекой, за лесом солнышко садится,
Что-то мне, подружки,
Дома не сидится.
Сладкая истома, черемухи цвет,
Усидишь ли дома
В восемнадцать лет?

Звездочки-росинки на лугах мерцают,
Сердце ждет чего-то,
Бьется, замирает.
Шорохи ночные,
Мягкий лунный свет.
Зори золотые — восемнадцать лет.

Паренек кудрявый прошептал три слова
И увел девчонку
От крыльца родного,
Мята луговая, серебристый цвет,
Радость молодая —
Восемнадцать лет.

За рекой, за лесом солнышко садится.
Мне теперь, подружки,
Дома не сидится.
С ветки облетает
Черемухи цвет.
В жизни раз бывает
Восемнадцать лет.



**Без слоў...**

## ЛІРЫКА

Кастусь паглядзеў з дакорам на сабраўшуюся моладзь і спытаў:

— Пра хор «Сувальшчына» чулі?

— Ведаем, — раздаліся галасы.

— А квартэт Чаянда ведаеце?

— Па радыёперадачах знаёмыя, — падае адказ.

— Вось якім поспехам карыстаюцца чатыры галасы! А ў вёсцы галасоў да чортавай матары. Вечарамі верашчыце па-дурному, дзяўчат палохаеце, маладзецтва свае паказваеце. Песня павінна быць лірычнай, прыемнай, каб да сэрца даходзіла...

— Бы сцызорык, — падказвае нехта.

— Параўнанне хуліганскае! — абураецца Кастусь. — Я пра лірыку, а вы пра сцызорыкі! Прапаную арганізаваць харавы гурток.

Пачнем з лёгкіх, маленькіх песенак, напрыклад:

Як я была мала, мала,
Калыхала мяне мама.

Праспяваўшы, Кастусь працягваў:

— Потым пяройдзем да народнага фальклора. Дырыжорам буду я, намеснікам маім вызначаю Сашку - гарманіста. Цяпер падзелім галасы.

— А сольныя выступленні будуць? — цікавіцца Маруся.

— Не цягніся ў салісткі, Славы Пшыбыльскай з цябе не будзе, — адазваўся Кастусь і прыступіў да пробы галасоў.

Ад баса ён прыйшоў у захапленне.

— Бык! Племянны бык! Шаляпінскі бас. З такім голасам толькі ў пажарнай камандзе служыць! — выкрыквае Кастусь, хлопаючы па шырокіх грудзях уладальніка баса.

Праз месяц хор ужо спяваў:

Ой пад вішанькаю,
пад чарэшанькаю,
Сядзеў стары з маладою, нібы з ягадою.

Потым здарылася, што Кастусь вымушаны быў на нейкі час пакінуць вёску. Вярнуўся праз два тыдні. Быў вечар і здзівіла Кастуся пустата ў вёсцы. У хаце таксама нікога не было, апрача старой бабулі, якая, ахаючы, вытлумачыла:

— Ціятр аб'явіўся, туды ўсе і пайшлі.

Кастусь пабег у вясковую святліцу. Увайсці было немагчыма, у дзвярах таўкаліся людзі. Вокны таксама былі аблеплены гледачамі. Кастусь прынёс з хлява драбіну, прыставіў да сцяны і ўзлез на яе. Цяпер праз адчыненае акно, над людскімі галавамі ўбачыў на сцэне хор у поўным складзе. Перад рампай — Маруська ў вышытым сарафане і Танька з накінутай на плечы ўзорыстай хусткай. Маруська пад гукі гармоніка выводзіць нізкім альтам:

А мой мілы лысы,
лысы,
А дзе ж мне яго
падзець?
А люстэрка мне не
трэба,
Буду ў лысіну
глядзець!

Пры гэтым Маруська прыхарошваецца, быццам перад люстэркам. Сашка выпаўняе паўзу пераборамі і цяпер высокім сапрана пачынае заліхвацка спяваць Танька:

У мяне мілёнак быў,
Звалі яго Колечкам.
Горача мяне любіў,
Я яго — ніколечкі.

Ды пры гэтым плячыма паводжвае і лебедзем праплывае навокал Марусі.

Зала ад захаплення раве.

Кастусь за галаву хапаецца, ледзь з драбіны не падае.

Пасля частушак Сашка павяртаецца да хора, бярэ акорд і тут хор як не грымне ва ўсю сілу:

Беласточчына, зямелька
роднає,
Жывеш заўсёды ты
ў глыбі маіх грудзей.
Мясціны не сустрэў
у жыцці ніводнае,
Якая б мне была хоць
крышку даражэй.

Раніцай пабег Кастусь кардзіцца старшыні грамадскай рады.

— Ад лірыкі акраўка не засталося! — ускрыкваў ён. — З народнага фальклора кабарэ зрабілі!

— Моладзь весяліцца любіць, па душы ім частушкі, — адказвае старшыня. — Таццяна з Марусяй сапраўдныя артысткі, за сэрца бяруць. Калі пачуў іх прадстаўнік з павета, сказаў мне: «Ваш калектыў павінен аб'ехаць увесь павет. Песні такія да працы заахвочваюць, любоў да бацькаўшчыны прывіваюць».

Пахлопаўшы па плячах Кастуся, старшыня працягваў:

— Фальклор — справа добрая, ды жывем мы не старым, а новым духам. Ты, сябра, не крыўдуй, што Сашку дырыжорам ставім.

Ад старшыні Кастусь пайшоў у піўную. Тут да вечара кожнаму даказваў, што лірыкі ў нас не разумеюць.

Дзядзька Лявон